ISSN 0132-5957

# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

9 • 2016
верасень




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА і Генадзя АЎЛАСЕНКІ.


Нічыпар ШЭРАНЬКІ
«Сялянская скваліснасць»
*Байка*
1

Андрэй СІДАРЭЙКА
«Пасылка»
*Гісторыйка*
12-13

Чорны гумар
23

# Маміна «датацыя»




Комікс Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

Нічыпар ШЭРАНЬКІ

# Сялянская скваПнасць



Граду ўскапаўшы, небарак,
Ледзь разгінаюся цяпер я.
Падумаў, што наемся ўсмак
Зялёнага цыбулі пер'я.

А жонка пойдзе — ушчыкне
З сялянскай скваПнасцю паўжмені.
Перападае толькі мне
Паўлыжкі часам, як не меней.

Кажу ёй: «Выдзеры карча,
Хоць раз натрушчыцца б уволю!»
Ды ў той агонь мільгне ў вачах,
Крычыць: «Глумоты не дазволю!»

Сабралася між тым яна
Візіт нанесці спешна сыну.
Цяпер наемся ўжо спаўна!
Хаджу ўвесь дзень, каўтаю сліну.

Правёўшы жонку да варот,
Пачуў, як засвярбелі рукі.
Шыбую шпарка на гарод,
За корч рукой, а ў сэрцы — мукі.

Павыдраць з корнем — сіл няма.
Няхай, раскошны, застаецца...
О, скваПнасць чортава! Сама
З грудзей гатова вырваць сэрца.






Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




Малюнак Алега ГУЦОЛА.




## Незвычайная паэма

Паэт, які не вылучаўся вялікім талентам, напісаў паэму з дваццаці тысяч вершаў. У літатарурным таварыстве, якое наведваў Вільгельм Гумбальт, зайшла гаворка пра гэты твор.

— Я прачытаў толькі першыя два вершы, — сказаў хтосьці.

— А я — два апошнія, — падхапіў адзін з крытыкаў.

— Незвычайная паэма! — усклікнуў Гумбальт. — Патрэбна дзесяць тысяч чалавек, каб прачытаць яе поўнасцю.

## Што ў вас баліць?

Адзін з французскіх палітычных дзеячаў міжваеннага часу П'ер Рэно быў па адукацыі ветэрынарам. Аднойчы падчас дэбатаў у Нацыянальным сходзе хтосьці з дэпутатаў з'едліва спытаў, ці практыкуе той па-ранейшаму лячэнне жывёл, каб падзарабіць. Рэно адказаў: «Ну, толькі калі гэта неабходна. Што ў вас баліць?»

## Здароўе ў парадку

Фатограф, які здымаў Уінстана Чэрчыля ў дзень ягонага 80-годдзя, ветліва спытаў:

— Спадзяюся, сэр, што і ў наступным годзе ў гэты ж дзень я зноўку змагу зняць вас?

— А чаму б і не? — усміхнуўся Чэрчыль. — У вас жа са здароўем усё ў парадку?



## «Дзіцячыя» малюнкі

У майстэрню Пабла Пікаса прыйшоў неяк новы паштальён і, убачыўшы палотны, напісаныя ў стылі кубізму, з разуменнем прамовіў: «Як добра, што і вашыя дзеці таксама вучацца маляваць».

## Нямое кіно

Чарлі Чаплін любіў глядзець нямыя фільмы. Калі яго спыталі, чаму не гукавыя, той патлумачыў:

— Нямы фільм — выключная магчымасць назіраць за цудам, што не сустракаецца ў звычайным жыцці. Напрыклад, я атрымоўваю задавальненне, калі ў нямым кіно бачу жанчын, якія адкрываюць рот... і нічога не гавораць.



## Новы халадзільнік

Знакаміты палярны вандроўнік Раальд Амундсан быў аднойчы ў гасцях. Малая дачушка гаспадароў увесь час імкнулася прыцягнуць увагу такога выбітнага чалавека, прыдумляючы розныя спосабы, і, нарэшце, звярнулася да яго:

— А не хацелі б вы паглядзець на наш новы халадзільнік?

**Вялікіх падслухаў**
**Дзядзька з-пад Вілейкі.**



Малюнак Наталлі КАБЯКОВАЙ.



Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.

# Іголкатэрапія







Малюнкі Алега ПАПОВА.

## Звычайныя дзеці «пакалення індыга»

*Міні-фельетон*

*– Цяпер дзеці ў два гады самі ўключаюць камп'ютар, разблакіроўваюць тэлефон. А што рабіў ты ў гэтым узросце?*
*– А я... еў пясок.*

Вучоныя і псіхолагі ў адзін голас сцвярджаюць, што дзеці, якія нарадзіліся ў XXI стагоддзі, асаблівыя. Такіх унікумаў называюць «пакаленне індыга». Яны з самага малога ўзросту адрозніваюцца шматлікімі талентамі, выключнымі здольнасцямі і хутка вучацца новаму. Некаторыя даследчыкі нават прыпісваюць такім дзецям звышнатуральныя сілы. Напрыклад, тэлекінэз, тэлепатыю ці экстрасэнсорыку.

Здаецца, што бацькі, бабулі і дзядулі «пакалення індыга» ў дзяцінстве былі ну зусім звычайнымі. Развіваліся не так хутка, ды і сталелі вельмі павольна. Аднак калі б і дзе ні нарадзіліся малыя, якімі б здольнасцямі ні валодалі, яны ўсё роўна застаюцца дзецьмі...

З вяртаннем у наша жыццё капеек пачасціліся выпадкі, калі хлопчыкі і дзяўчынкі ва ўзросце ад года да шасці праглынаюць іх з-за цікаўнасці: якія ж на смак гэтыя бліскучыя круглыя «цукеркі»?

Урачы настойліва рэкамендуюць, калі такое здарылася, хутчэй звярнуцца ў бальніцу. Манета можа прапаліць сценку кішэчніка і тым самым нанесці вялікую шкоду арганізму. Ды і ўвогуле любая іншародная рэч, якую выпадкова праглынае малое, небяспечная для здароўя. Асаблівую ўвагу трэба звярнуць на маленькія батарэйкі, якіх шмат у сучасных цацках.

Вось і атрымліваецца, што за «пакаленнем індыга» ўсё роўна трэба пільна сачыць, дапамагаць у вывучэнні навакольнага асяроддзя. І абавязкова тлумачыць, чаго рабіць нельга.

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**



Малюнак Алега ГУЦОЛА.









Малюнкі Аркадзя ГУРСКАГА.

# Думкі ўголас

Той, каму хоць трава не расці, наўрад ці пасадзіць дрэва.

Як ні круці, а ў жыцці іншы раз даводзіцца і выкручвацца.

Нішто так не аб’ядноўвае і не раз’ядноўвае людзей, як грошы.

Калі дурасць напісана на твары, яе ніяк не схаваеш.

Для паўнаты жыцця трэба мець поўны кашалёк.

Не кожны генерал здольны камандаваць жанчынай.

Чалавек, які страціў пачуццё адказнасці, заўсёды знойдзе сабе апраўданне.

Гаспадар свайго слова не раскідваецца словамі.

У таго, хто здольны чырванець, валасы хутчэй сівеюць.

І на здзелцы са сваім сумленнем можна добра зарабіць.

Сямейнае шчасце знаходзяць у ЗАГСе і губляюць у судзе.

Той, хто не бачыць далей за свой нос, лёгка заўважае тое, што дрэнна ляжыць.

Неабавязкова, каб усё ўкладвалася ў галаве. Нешта можа змясціцца і ў кішэні.

Звычайна далёкія сваякі імкнуцца стаць блізкімі для нябожчыкаў.

**Даслаў Барыс КАВАЛЕРЧЫК,**
*г. Гомель.*

## Каб не зманіць...

*Быль*

У пасляваенныя гады ў адным з калгасаў працаваў старшынёй таварыш Язэп (так яго называлі вяскоўцы). Сходы пры ім праходзілі амаль штотыднёва. Кожная справаздача пачыналася з таго, што старшыня высока задзіраў галаву і, упіўшыся позіркам у столь, казаў:

– Таварышы! Каб не зманіць, у нас усе паказчыкі ідуць у рост: і ўраджайнасць, і надоі малака, і прыплод.

Пры гэтым ён заўсёды дадаваў да мінулагодніх лічбаў некалькі кілаграмаў збожжа, мілілітраў малака ад каровы ды адно цялятка.

Аднойчы перадавая калгасніца Ганна, слухаючы чарговую справаздачу, не стрымалася і выкрыкнула:

– Навошта маніш, старшыня? У нас у гэтым годзе неўраджай быў!

Бойкая маладзіца Матруна, даярка, гучна зарагатала і дадала:

– Ды і сена таксама няма, кароўкі з голаду падыхаюць!

Цялятніца Маруся далучылася:

– І цяляткам сенца не хапае!

Язэп спакойна выслухаў гэтыя выказванні, ніяк не адрэагаваўшы. Наступную справаздачу ён зноў пачаў з таго, што высока задраў нос і паўтарыў нібы завучаныя словы:

– Каб не зманіць вам, таварышы...

На наступны год калгаснікі выбралі новага старшыню.

**Аляксей РУСІНОВІЧ,**
*Светлагорскі раён,*
*в. Пятровічы.*




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.



Малюнак Аляксандра ШМІДТА.




У аднаго мужчыны ўкралі каня. Убачыўшы гэта, гаспадар адразу ж кінуўся на кірмаш. Пахадзіў там і ўбачыў сваю жывёлу. Пытаецца ў прадаўца:

– Чый конь?

– Мой, – адказвае злодзей.

Гаспадар закрыў рукамі каню вочы.

– Калі твой, то на якое вока ён сляпы?

Злодзей не паспеў яшчэ як след разгледзець украдзеную жывёлу і няўпэўнена прамовіў:

– На левае.

Мужчына адкрыў каню левае вока. Прадавец збянтэжыўся:

– А, я ж памыліўся. На правае...

Тады гаспадар адкрыў і правае вока. Усе ўбачылі, што конь быў не сляпы, а добра бачыў на два вокі.

## Не паверыў

Паляўнічы сустрэўся з рыбаком і пачаў расхвальваць сваю стрэльбу:

– За кіламетр у зайца траплю! А ў дзіка аднойчы за паўтара кіламетра пацэліў.

Рыбак у адказ таксама пачаў выхваляцца:

– А я ўчора вось гэтай вудай злавіў карася ў метр даўжынёй.

– Ды быць такога не можа! – здзівіўся паляўнічы.

– Бач, які ты! Я табе на цэлы кіламетр паверыў, а ты мне і на метр не хочаш верыць, – пакрыўдзіўся рыбак.

**Даслаў Віктар САЛАНЕЦ,**
*г. Любань.*

## Варты спачування

Ці паклёпнічалі вы ў дзяцінстве на сваіх сяброў або братоў і сясцёр? А можа, наадварот, вас наўмысна абвінавачвалі ў тым, чаго вы на самай справе не рабілі? У любым выпадку, пагадзіцеся: дабром такія нагаворы ніколі не заканчваюцца.

Адзін 18-гадовы мінчанін, пасварыўшыся з каханай, вырашыў расчуліць яе. Ён парэзаў сабе левае прадплечча і звярнуўся ў бальніцу. Хлопец напрыдумляў, што на яго падчас прагулкі ў парку напаў незнаёмы з нажом і траўміраваў. Урачы аказалі маладому чалавеку дапамогу і выклікалі міліцыянераў. Так паклёп на невядомага хулігана хутка раскрыўся.

За жаданне выклікаць у дзяўчыны спачуванне хлопцу «свеціць» пяць гадоў зняволення ці штраф у памеры 15 базавых велічынь. Пасля такога мінчаніна сапраўды можна пашкадаваць... за глупства.






## «Адпачынак» за кратамі

Бывае, адольвае такая стома – ледзьве ногі перасоўваеш. Здаецца, што толькі прысядзеш дзе-небудзь, як адразу апынешся ў абдымках Марфея. А калі да такой змучанасці дадаць яшчэ і алкаголь, то можна ўвогуле заснуць у любым месцы, нават самым незвычайным.

Малады мазыранін за дзень моцна выматаўся, а яшчэ выпіў гарэлкі. Гэта ўсё выклікала неверагодную стому. Таму ён вырашыў даехаць да дому на аўтамабілі. Яму прыглянуўся на паркоўцы Volkswagen T4. Каб сесці за руль чужой іншамаркі, мужчына разбіў лабавое шкло. Толькі ён ад'ехаў на некалькі метраў, як нечакана... заснуў. Так, унутры салона, яго і знайшлі міліцыянеры, калі пра ўгон машыны заявіў уладальнік.

За такое правапарушэнне мазыранін можа правесці да пяці гадоў за кратамі. Вось дык «адпачынак»!

## Дзіўная хвароба

Ёсць людзі з адной дзіўнай хваробай. Праяўляецца яна раптоўна, галоўныя сімптомы – пачынаюць свярбець рукі, а ногі становяцца вельмі шпаркімі.

Такую немач меў мужчына з вёскі Масты. Нядаўна ён падышоў на вуліцы да індывідуальнага прадпрымальніка, які гандляваў на вуліцы кавунамі. Неўзабаве сімптомы абвастрыліся, «хворы» схапіў пяцікілаграмовую ягаду і пабег.

Праз некаторы час супрацоўнікі міліцыі затрымалі злодзея. Шкада толькі, што кавун пры ім ужо быў не цэлы. Такая правіна абыдзецца мужчыне пакараннем – зняволеннем на тэрмін да шасці гадоў. Спадзяёмся, што за гэты час ён здолее перабароць дзіўную хваробу.






Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




### Дарагі «Вожык»!

Сведкам вось такога дзіўнага суседства я стаў, прагульваючыся каля рынку «Заходні» ў мікрараёне «Захад-2» Фрунзенскага раёна Мінска. Быццам само сабой, склалася чатырохрадкоўе:

*Зранку сэрца цяжка б'ецца?*
*Думкі – хоць ты памірай?*
*Ёсць такое вось суседства!*
*Дзе лячыца – выбірай…*

Цалкам магчыма, што такую ідэю з альтэрнатыўнымі лячэбніцамі могуць падхапіць па ўсёй Беларусі. А як ты лічыш, калючы друга?

**Янусь МАЛЕЦ,**
*г. Мінск.*




### Прывітанне, калючы дружа!

Ці чуў ты пра тое, што ў сталіцы цяпер ёсць своеасаблівы помнік дурасці аўтамабілістаў? На перасячэнні вуліц Няміга і Раманаўская Слабада з'явіўся легендарны дарожны знак: пасля таго, як яго збілі ўжо шосты (!) раз, неабыякавыя мінчане… правялі акцыю памяці па дарожным пакутніку. На месцы наезду з'явіліся лампадка, галінка вярбы і чарка, накрытая кавалачкам хлеба. Пасля няшчаснага здарэння знак не толькі ў чарговы раз «уваскрос», але і не змог змаўчаць – невядомыя жартаўнікі стварылі яму ўласную старонку ў сацыяльнай сетцы. «Пакутую праз вашую няўважлівасць за рулём» – нагадвае знак аўтааматарам у інтэрнэце. А тыя ў знак салідарнасці дасылаюць фотаздымкі іншых «жалезных братоў», якія загінулі ад наезду няўважлівых вадзіцеляў…

Пасля рамонту знак усё роўна збілі. І зноў аднавілі. Астравок бяспекі, на якім знаходзіўся барацьбіт з ДТЗ, дэмантаваны, цяпер на тым месцы стаіць сем абарончых слупкоў. Цікава, ці зменіць гэта сітуацыю?

Як думаеш, калючы сябра, можа, такія перфомансы – не проста жарт, а дзейсны спосаб нагадаць людзям пра захаванне дарожнай бяспекі?

**Ігар ЧОРНЫ,**
*г. Мінск.*






**Анатоль ЦЫРКУНОЎ**




### Пра НЛА

Талеркі таму толькі могуць лятаць,
Што пэўнай карысці ад іх не відаць.
Былі б яны з сырам, ікрой ці халвой,
Даўно прызямліў бы іх лётны канвой.





### Лысы студэнт

Таму ён рана лысым стаў
І страціў волас свой,
Што на кароткім ложку спаў
І цёрся галавой.
Было гэта не ў цеснай хаце,
А ў інстытуцкім інтэрнаце.

### Мараліст

Усюды ён распуснікаў знаходзіць,
А сам з чужою жонкай шашні водзіць.
Выходзіць, і заўзятага лаўца
Бярэ нячысцік часам на жыўца.



*г. Мінск.*

## Свой сярод сваіх

*У слаўным шэрагу сёлетніх юбіляраў пачэснае месца займае вядомы паэт і празаік Віктар ГАРДЗЕЙ. Літаратурныя здольнасці будучага пісьменніка, лаўрэата прэмій імя Івана Мележа і «Залаты Купідон», праявіліся яшчэ падчас яго працы ў раённым друку: спачатку ў ляхавіцкай, потым у ганцавіцкай газетах. З пераездам у Мінск займаў розныя пасады ў рэдакцыях рэспубліканскіх выданняў: часопісаў «Беларусь», «Родная прырода», «Полымя», «Маладосць», газеты «Літаратура і мастацтва».*

*Як удумлівы, пранікнёны лірык сцвердзіў сябе ў шматлікіх кнігах паэзіі. А неўзабаве ўсё часцей і часцей пачаў звяртацца да прозы. Вось тут у поўную меру праявіўся і яго гумарыстычны талент. Нездарма вельмі па-свойску Віктар Канстанцінавіч пачуваўся ў «Вожыку», дзе не адзін год працаваў у штаце.*

*Зычым юбіляру невычэрпнага аптымізму, творчага плёну, здароўя і даўгалецця!*

**Віктар ГАРДЗЕЙ**

### Разумнікі

Сказ пра Вову — без абразы,
Дый пра Генку не маню.
Непаседы, верхалазы,
Хоць у вёсцы ўпершыню.

Жвачку ўсё жуе карова,
Ледзь прыляжа дзе на дол.
— Што жуеш? — пытае Вова. —
«Орбіт»? «Стымарал»? «Дзірол»?

Не дапяць чаго — ганебна
Гарадскім, як ёсць, братам.
Кажуць: — Ёй адной патрэбна
Жвачак цэлы кілаграм.

У каровы — перазменка,
Зарыкала ля двара.
— Зразумелі! — кажа Генка. —
Сырадой збіраць пара.

Думаў: бабка проста выме
Той раздзьмуты туга шар,
Бо не знаў, што гэта вымя,
Дык сказаў: — Резервуар!
Апаўдні перад ядою
Бабка прынясе з хляўка —
Генка кажа: — Сырадою,
Вова кажа: — Малака.

Кубкі з цёплай белай пенкай
Бабка ўнукам падае:
— Выпі, Вова! Выпі, Генка!
Ах, разумнікі мае!



Сяброўскі шарж
Аляксандра КАРШАКЕВІЧА,
2011 г.




Малюнак Пятра КОЗІЧА.




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.

## Знарок не прыдумаеш

«Пашанцавала мне нарадзіцца ў гэтым горадзе, пашанцавала і гораду, што я ў ім нарадзіўся».

*(З успамінаў.)*

«Робіць у свабодны ад работы рабочы час».

*(З інфармацыі.)*

«У рэйс часта выязджаюць аўтамабілі і трактары ў стане алкагольнага ап'янення».

*(З даведкі.)*

«У нас вам заўжды рады!»

*(З рэкламы пахавальнага бюро.)*

«Паступіў у продаж беларускі трыкатаж, панчохі і шкарпэткі. Звяртацца ў магазін «Мэбля» па вуліцы Садовай, 8».

«Да ўвагі выратавальнікаў! Пры купанні будзьце асцярожнымі ў вадзе!»

«Майстар на гадзіну: адрамантую, зламаю, павешу, здыму, разбяру, збяру, перасуну, разаб'ю, склею і інш.»

«Куплю ялавічыну і свініну ў жывым выглядзе».

*(З аб'яў.)*

**Сабраў Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*







Малюнкі Алега ПАПОВА.

## Афарызмы

Шлюб з добрай жанчынай — гэта гавань у буры жыцця, а з дрэннай — гэта бура ў гавані.
*Джон Пціцсан, французскі пісьменнік*

Чалавеку патрэбны два гады, каб навучыцца гаварыць, і шэсцьдзясят гадоў, каб навучыцца трымаць язык за зубамі.
*Расул Гамзатаў, аварскі савецкі паэт*

Хітрасць у параўнанні з мудрасцю — тое ж, што малпа ў параўнанні з чалавекам.
*Уільям Пэн, англійскі палітычны дзеяч*

Хоць свет у цэлым рухаецца наперад, моладзі даводзіцца кожны раз пачынаць спачатку.
*Іаган Вольфганг Гётэ, нямецкі паэт*

Неразумны сябар з сяброўства зробіць тое, чаго сто разумных ворагаў з варожасці не зробяць.
*Кабус, таджыкскі паэт*

Быць разумным — значыць не пытацца таго, на што нельга адказваць.
*Васіль Ключэўскі, рускі гісторык*

# «Секта гультаёў»

*Фельетон*

Віктар Мыш спецыяльна здаваў залік у апошняй пяцёрцы: у адрозненне ад аднагрупнікаў, ён мог сабе дазволіць паспаць даўжэй. Пакуль тыя чыталі канспекты і падручнікі альбо нервова дзялілі шпаргалкі, Віктар дамовіўся пра стопрацэнтную здачу іспыту з аднакурсніцай Алінай Дзівавай. Некалькі купюр небеларускага паходжання — і яна запэўніла, што ад студэнта спатрэбіцца толькі не праспаць і не памыліцца аўдыторыяй.

Хлопец зайшоў дваццатым, выцягнуў білет і сеў рыхтавацца. А дакладней, рабіць выгляд, што нешта піша і рашае.

Неўзабаве Віктар сеў адказваць.

— Бачу, з наведваннем у семестры ў вас былі праблемы, — выкладчык Бураў глядзеў на плот з літар «н» у сваіх запісах. — Пакажыце, калі ласка, ваш адказ.

Віктар адразу заўважыў: Бураў паводзіў сябе натуральна, быццам не ведаў пра дамоўленасць.

— Так, функцыя, якую вы напісалі, што азначае?

— Функцыя — гэта асноўнае... матэматычнае паняцце, — студэнт з надзеяй чакаў, што Бураў пачне распісвацца ў ведамасці.

— Які змястоўны адказ! — з іроніяй прамовіў прафесар. — Такое азначэнне можна прымяніць усюды: дастаткова толькі замяніць словы «функцыя» і «матэматычнае». Ладна, праверым задачу. Магчыма, з практыкай у вас лепш справы ідуць.

Бураў узяў ліст, паглядзеў і незадаволена запытаў:

— Вы толькі ўмову запісалі? А дзе рашэнне?

Віктар зразумеў, што выкладчык запрацаваўся і яму трэба незаўважна для іншых студэнтаў нагадаць пра дамоўленасць.

— А можна я адразу напішу вам адказ? — па-змоўніцку прапанаваў Віктар.

Бураў здзіўлена паглядзеў на студэнта.

— Паспрабуйце! Мне ўжо нават цікава стала.

Мыш падумаў: «Дзівава казала, што да яе звяртаюцца часта, а значыць, Бураў сапраўды мог забыцца на мяне. Трэба нагадаць яму пра Аліну і зрабіць намёк на кошт заліку».

Віктар узяў ліст і напісаў:




— Што гэта? — здзівіўся Бураў. — Вы прыйшлі на залік па крыптаграфіі? Калі так, то лічыце, вы яго здалі: напачатку самаўпэўненасць з адказам, а цяпер невядома адкуль узяліся літары А, Д і S. Чаму вы адразу не сказалі, што не падрыхтаваліся? Навошта марнаваць мой час? Вы ўжо дзясяты студэнт, які піша ў задачах замовы-рэбусы, а напрыканцы абавязкова згадвае пекла. Магчыма, вы ўсе думаеце, што сам д'ябал вам дапаможа? Што ж, сустрэнемся на пераздачы. Спадзяюся, да гэтага часу ўсе адэпты вашай секты перастануць прасіць дапамогі ў тагасветных сіл і пачнуць вучыцца!

Калі Мыш выйшаў з аўдыторыі, ён быў вельмі раззлаваны. Убачыўшы Дзіваву, хлопец адразу кінуўся сварыцца і скардзіцца на няўдалы залік. Нават абяцаў пайсці ў дэканат выдаць змову дзяўчыны з Буравым.

Аліна з асцярогай азірнулася і дрыготкім голасам патлумачыла:

— Ты лічыш, калі раскажаш пра ўсё ў дэканаце, здолееш пераздаць залік? Загадчык кафедры здагадваецца, што Бурава студэнты залагоджваюць. І якраз сёння ён збіраўся наведаць іспыт. Уяві ягоны твар, калі табе з такой колькасцю прагулаў паставяць залік? Вось на пераздачы абавязкова атрымаеш подпіс у залікоўку.

Аліна спадзявалася, што яе падман не толькі не выкрыецца, але атрымаецца ўгаварыць Віктара яшчэ на адзін хабар. Іншыя ж студэнты верылі: іхнія грошы ідуць далей Алінінай кішэні. Дзякуючы такім невукам «секта гультаёў» Дзівавай папаўнялася з кожным днём.

— Паслухай, з тваімі пропускамі трэба будзе даплаціць сто долараў. Сам разумееш, сітуацыя вельмі складаная, — шапнула яна на вуха хлопцу і хуценька пайшла прэч.

Мыш уздыхнуў і пачаў думаць, дзе ж знайсці неабходныя грошы...

Ашуканцы традыцыйна не выкарыстоўваюць фізічны ці псіхалагічны прымус, каб завалодаць чужой маёмасцю — ахвяра аддае яе ў абмен на абяцанні. Безумоўна, такая добраахвотнасць не апраўдвае злачынцаў і не здымае з іх адказнасці за правапарушэнні. Аднак попыт нараджае прапанову. І пакуль будуць людзі, якія жадаюць дасягнуць максімальнага выніку пры мінімальных намаганнях, будуць і тыя, хто паабяцае гэта выканаць. Вось «секты гультаёў» і працягваюць узнікаць і квітнець. Калі ўжо людзі зразумеюць, што за кожную «халяву» ў любым выпадку прыйдзецца заплаціць?

**Алена КЕДА,**
*г. Мінск.*



## Мімаходзь

Дзе атрымаць ліцэнзію, каб забіць у сабе звера?

Калі праца сядзячая, не трэба здзіўляцца, што яна не ідзе.

Кожны мае выбар: альбо выбіцца ў людзі, альбо застацца чалавекам.

Заўсёды адказваю ўзаемнасцю прыгожым дзяўчатам: яны раўнадушныя да мяне, я – да іх.

Калі ваш муж – не падарунак, пакіньце яго сабе.

Стаміліся ад гультайства? Значыць, неабходна адпачыць.

Не можаш звязаць двух слоў – ідзі вязаць венікі.

Ёсць людзі, як механічны гадзіннік: пакуль не заводзеш, з месца не зварухнуцца.

Калі не ўдалося адкруціцца ад жыцця, то і са смерцю не разміненшся.

**Даслаў Анатоль БАРЫСАГЛЕБСКІ,**
*г. Гомель.*




Комікс Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.




**Расціслаў БЕНЗЯРУК**

### Дырыжор

Лявон, разважаючы, што і як яму рабіць, часта ў такт думкам махае рукамі. Аднойчы жонка запытала:

– Лявоне, чаго ты ўсё рукамі махаеш?

– Мелодыю ўспамінаю, – адказаў той.

– І калі я гэтую музыку пачую? – усміхнулася жанчына.

– Відаць, ніколі. Я ж не спявак, а дырыжор...

### Калі добра падумаць

Надакучыла Мікіце ды Гаўрусю, што жонкі на іх з-за гарэлкі сварацца. Вось і вырашылі дружбакі адначасова кінуць піць. «Ці ж у нас няма характару?» – разважаюць паміж сабой. Ды тут Мікіта ўспомніў:

– Мне знаёмы доктар казаў, што нельга кідаць у адзін момант. Інакш інфаркт, інсульт ці яшчэ якая хвароба прычэпіцца. Трэба ўсё рабіць паступова.

– А як гэта? – здзівіўся сябар.

– Сёння вып'ем пляшку, заўтра – палову, а паслязаўтра – чвэрць...

– Не выйдзе ў нас так, – засумняваўся Гаўрусь. – Што ж мы, ужыўшы палову бутэлькі, рэшту выкінем?

– А давай лепей так, – прапанаваў Мікіта. – Купім пляшку. Я схаваю за спіну, а ты будзеш адгадваць, у якой руцэ. Калі інтуіцыя не падвядзе, вып'ем, у процілеглым выпадку – разаб'ём.

Так і зрабілі.

– У левай! – нецярпліва выкрыкнуў Гаўрусь.

– Не спяшайся, сусед. Думай, моцна думай...

– У правай, – паправіўся той.

– Малайчына! – радасна ўсклікнуў Мікіта. – Вось можаш, калі захочаш. Нясі шклянкі!..

*г. Жабінка.*




**Андрэй СІДАРЭЙКА**

## Пасылка

*Гісторыйка*

Аднойчы Воўка, які ўжо трэці год вучыўся ў сталічным універсітэце, у тэлефоннай размове з бацькамі абмовіўся:

– Да стыпендыі далёка, грошы скончыліся. А есці так хочацца, гранітам навукі сыты не будзеш.

– Не хвалюйся, – пачуўся голас маці. – Хутка ў Мінск па справах збіраецца дзядзька Іван, праз яго і перадамо табе пасылку.

Як ніколі, Воўка чакаў выхадных. Жаданая сустрэча з земляком адбылася на чыгуначным вакзале. Дзядзька Іван перадаў вялізную сумку, якую Воўка ледзь падняў абедзвюма рукамі. Калі ўжо збіраліся разыходзіцца, выратавальнік усклікнуў:

– Ледзь не забыўся! Цётка Маруся табе «стыпендыю» ў канверт паклала. Каб добра вучыўся.

Воўка падзякаваў земляку і накіраваўся ў інтэрнат.

– Нічога сабе! Вось гэта пасылка, – у адзін голас усклікнулі таварышы. – З такой правізіяй і стыпендыя не патрэбна.

У сумцы сапраўды было ўсё, чаго толькі можа пажадаць звычайны студэнт.

Калі Воўка раскладваў перадачу ў шафу, у пакой забег сусед Сашка.

– Нічога ты жывеш! А памятаеш, як я цябе салам накарміў? Цяпер сам галадаю...

«Сашка – хлопец добры, заўсёды выручаў», – падумаў Воўка і пачаставаў сябра салам, а ў прыдачу яшчэ і цыбулі даў.

Не паспеў той зачыніць за сабой дзверы, як у пакой зайшоў аднакурснік Лёшка.

– Вось пашанцавала, – пачаў ён. – А мае бацькі далёка жывуць. Няма кім пасылку перадаць. Стыпендыя даўно закончылася. Толькі гарбата з сухарамі і ратуе.

Воўка быў хлопцам шчодрым. Ведаў, што іншым трэба дапамагаць. Не хацеў, каб Лёшка «сядзеў» на адных сухарах. Даў трохі бульбы ды сала.

– Дзякуй! Са стыпендыі абавязкова цябе пачастую! – падзякаваў сакурснік і рушыў гатаваць смажаную бульбу.

Трэцяй забегла знаёмая Ксюша. Папрасіла алею. Воўка не адмовіў.

Чацвёртай зайшла Кацька, якая заўсёды дапамагала хлопцу на пісьмовых заліках. Ён, чым мог, падзяліўся і з ёй.

Шостым зайшоў старшакурснік Рыгор.

– Воўка, давай я за цябе курсавую зраблю. Ці што яшчэ. Так хочацца па-




Малюнак Аляксандра ПЯТРОВА.

харчавацца хоць раз па-вясковаму. А то гэтыя сасіскі з курынымі крыльцамі ўжо поперак горла стаяць!

Воўка пачаставаў і Рыгора.

Пасля ў пакой зноў завіталі госці. І яшчэ. І яшчэ. Усім Воўка хацеў дапамагчы. Бо і яны яго калісьці выручалі.

Праз дзве гадзіны на паліцы засталося: кілаграм бульбы, дзве цыбуліны, крыху мяса з салам, шклянка алею.

З усяго гэтага Воўка зрабіў абед і з'еў яго з суседзямі па пакоі.

Пасля хлопец сеў на ложак, задумаўся. У кішэні яшчэ ляжаў канверт з грашыма, якіх абавязкова павінна было хапіць на абеды ў сталовай да стыпендыі.

Шкада толькі, што пасылкі ад бацькоў хапіла ненадоўга.

*Рэчыцкі раён,*
*агр. Каравацічы.*




Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




Выкладчык:

– Дакажыце, што вада прыцягвае электрычнасць.

Студэнтка:

– Кожны раз, як толькі я залезу ў ванну, звініць мабільны.

* * *

З размовы ў студэнцкім інтэрнаце.

– Набыў кулінарную кнігу, вось толькі прыгатаваць нічога не магу. Ніводнага годнага рэцэпта, – кажа першы.

– Чаму? – цікавіцца другі.

– Разумееш, кожны рэцэпт пачынаецца са слоў: «Вазьміце чысты рондаль...»



* * *

У бацькоў наваспечанага студэнта пытаюцца:

– А ваш сын знайшоў пакой, дзе будзе жыць падчас вучобы?

– Так, – спакойна адказваюць тыя. – Ад кватэры, у якой ён будзе жыць, дзвесце метраў да сяброў, паўкіламетра да каханай дзяўчыны і пяць кіламетраў да ўніверсітэта..




* * *

Студэнт вяртаецца дадому з першага іспыту.

– Ну, як усё прайшло? – пытаюцца ў яго бацькі.

– Ды нічога, – адмахваецца той. – Толькі экзаменатар трапіўся набожны. На працягу ўсяго майго адказу падымаў вочы да столі і паўтараў: «Божа мой!»

## Знайшоў выйсце

Пакахаў студэнт дзяўчыну,
Вырашыў заваяваць.
«Цяпер трэба для Галіны
Ружы мне штодня купляць».

Да бабулі ў пераходзе
Падышоў, цану спытаў.
Ўспомніў аб сваім даходзе,
Разважаць інакш пачаў:

«Хутка кветкі тыя звянуць,
Пару дзён – і прападуць.
Лепш уважліва мне глянуць,
Што яшчэ тут прадаюць?»

Знайшоў выйсце закаханы:
Можна семачак купіць!
Пачастунак непаганы,
Каб дзяўчыне дагадзіць.

Частаваў студэнт Галіну –
Слаўны выдаўся дзянёк!
Адчуваў сябе шчаслівым:
Не пустым быў кашалёк.

**Вольга ЛАБАЖЭВІЧ,**
*г. Клецк.*

**Кацярына ХАДАСЕВІЧ-ЛІСАВАЯ**



# Вясельны падарунак

*Апавяданне*

Леакадзія Андрэеўна ўтульна ўладкавалася на канапе перад тэлевізарам, каб паглядзець суботні канцэрт. Пажылая жанчына паставіла перад сабой вялікую талерку яшчэ цёплых пончыкаў, побач размясціўся агромністы кубак гарбаты і два сподкі: адзін з варэннем, а другі з тварагом. Леакадзія Андрэеўна зажмурыла вочы і ўцягнула носам прыемны водар салодкай вячэры. Але не паспела яна паспытаць свой кулінарны шэдэўр, як пачуўся стук у шыбіну. Бабуля схапіла талерку з пончыкамі і хуценька схавала ў шафе. Не самога грукату яна напалохалася, а таго, што так несвоечасова, падчас яе вячэры, прыйшлі госці. Пакуль гаспадыня пабегла адчыняць дзверы, скажу вам па сакрэце, што вельмі ўжо сквапная яна была. Кожную капейчыну лічыла, і не ад беднасці, такі вось характар...

– Праходзьце, суседзі! – запрасіла яна нечаканых гасцей. – Сядайце на канапу і расказвайце, што вас да мяне прывяло.

А прыйшла маладзенькая суседка Марына са сваім жаніхом Дзмітрыем.

– Надумалі мы, Леакадзія Андрэеўна, вяселле ладзіць! – радасна пачала Марына. – Хацелі б сярод гасцей і вас пабачыць.

– І калі ж гэтая ўрачыстасць адбудзецца? – ажывілася гаспадыня.

– У наступную суботу, – адказаў Дзмітрый. – Абавязкова прыходзьце!

Леакадзія Андрэеўна разумела, што маладых варта і гарбатай напаіць, і нечым пачаставаць, але як успомніла апетытную талерку з пончыкамі...

– Пачакайце хвілінку!

Неўзабаве перад гасцямі з'явіліся кубкі з гарбатай, маленькі сподачак з рассыпнымі ледзянцамі ды тваражок з варэннем. Лыжачак Леакадзія Андрэеўна наўмысна не прынесла.

Выпілі маладыя па паўкубка падфарбаванай вадкасці, падзякавалі гаспадыні і пайшлі. «Добра яшчэ, што адзін пакецік гарбаты на дваіх заварыла, усё роўна ж не выпілі!» – задаволена адзначыла бабуля, прыбіраючы са стала.

Назаўтра яна выбралася да суседак, каб даведацца, хто ды што збіраецца дарыць. Як высветлілася, вяселле будуць гуляць усёй вёскай.

– Ніякія падарункі маладым не патрэбны! – як адна, разважалі суседкі. – Вяселле вялікае будзе ў Дзмітрыя з Марынай, вельмі страцяцца маладыя – паспрабуйце два дні ўсю вёску карміць, паіць ды забаўляць! Таму трэба толькі грошы дарыць, каб хоць часткова растраты пакрыць...

– І колькі несці? – непакоілася Леакадзія Андрэеўна. – Долараў дваццаць хопіць, я думаю.

– Аёечкі! – дзівіліся бабы. – Што ж ты такая сквапная! Раскашэлься хоць раз, жмінда! Такую выдатную пару будзем усёй вёскай выпраўляць! Ім жа, як кажуць, стартавы капітал патрэбен!

– Я дык сотню пакладу на каравай! – пахвалілася Кастусіха.

– Дык табе менш і нельга! – адазвалася Леакадзія Андрэеўна. – Ты ж іх найбліжэйшая суседка, цераз плот жывеш! А я праз тры хаты, дык мне і ўтрая менш дарыць трэба.

– Ага! І есці таксама ўтрая менш прыйдзецца! – завялася Кастусіха. – Толькі ў гэтай справе з табой ніхто не параўнаецца! Ты як за сталом апынешся, дык нос ажно ўпрысядкі ходзіць! На каравай дасі ўтрая менш, а з'ясі ўтрая больш! Трэба сумленне мець!

Пайшла Леакадзія Андрэеўна дадому, пераапранулася і накіравалася на пошту па пенсію. Ніколі яшчэ гэты шлях не быў такім сумным: ісці па грошы, каб частку з іх проста падарыць...

Пералічвае Леакадзія Андрэеўна храбусткія купюры, а твар такі маркотны, ледзь не плача.

– Прапаную Вам набыць латарэйны білет! – ветліва ўсміхаецца паштарка.

– Дзякую, але не трэба. Колькі разоў брала, а нічога так і не выйграла!

– Ну, павінна ж хоць калі-небудзь пашанцаваць!

– Давайце два! – згаджаецца бабуля.

Дома Леакадзія Андрэеўна дастала з шафы канверт і паклала ў яго пяцьдзясят долараў, адарваных ад сэрца.

У дзень вяселля яна прыбралася і прысела, як кажуць, на дарожку. Адкрыла канверт, памацала новенькую купюру і... не вытрымала. Хутка падскочыла, схавала пяцьдзясятку пад падушку, дастала з шафы пакет, у якім ляжаў льняны абрус з сурвэткамі.

– Таксама добры падарунак! – запэўніла сябе. – Каб яшчэ што дадаць...

На вочы трапілі латарэйныя білеты. Леакадзія Андрэеўна ўкінула іх у пакет, дзе ляжаў абрус, але каля парога перадумала. Вырашыла пакінуць адзін сабе. Доўга вагалася, які падарыць, а які сабе ўзяць. Дастала адзін, потым памяняла на другі... Ледзь на свята не спазнілася!

Ой, і добра ж пагуляла на тым пышным вяселлі ўся Крычаўка! Такога шыкоўнага святкавання ніхто з тутэйшых вяскоўцаў яшчэ не бачыў. На ўвесь кошт абруса з сурвэткамі два дні піла-ела і Леакадзія Андрэеўна. Ажно стамілася, небарака, ад такога актыўнага адпачынку. Таму, калі вяселле скончылася, нічога так не хацела, як добра выспацца і ў цішыні пасядзець. Ды дзе там!

У панядзелак прыйшлі да яе маладыя, а разам з імі ці не паўвёскі.

– Дзякуем, Леакадзія Андрэеўна! – ледзь не скакалі Дзмітрый з Марынай. – Гэта трэба добра адзначыць!

Глядзіць жанчына і не разумее: усе радуюцца, выпіваюць, ёй дзякуюць...

– А за што?! – пытаецца Леакадзія Андрэеўна.

– За выдатны падарунак! – цмокнула яе ў шчаку Марына.

«Прысароміць вырашылі! Абрус мой не спадабаўся!» – думае бабуля.

– Па тым латарэйным білеце, што вы падарылі, мы выйгралі іншамарку! – пахваліўся Дзмітрый і падхапіў ачмурэлую жанчыну на рукі. – Дзякуем!

Цяжка было беднай Леакадзіі Андрэеўне перажыць такую навіну! Дакарала сябе: «Навошта я тыя білеты дарыла! Яшчэ доўга выбірала, які аддаць, які сабе пакінуць...» Пабегла і яна на пошту праверыць выйгрыш.

– Па гэтым білеце ні капейчыны, – спачувальна ўздыхнула ветлівая паштарка. – А вы паспрабуйце яшчэ парачку набыць!

– Досыць! – ледзь не плакала жанчына. – Нагулялася, хопіць!

Пагаравала аб сваім няшчасці некалькі дзён ды супакоілася.

– Нашто мне тая машына! Няхай маладыя радуюцца. А я ім самы багаты падарунак зрабіла, усе суседкі да канца дзён зайздросціць будуць! Пайду іх наведаю!

*г. Мінск.*







– Якая самая вялікая рыба? – спыталі ў рыбака.

– Тая, якую зловіш.

* * *

– Скажы, матуля, чаму мужчыны любяць нас цалаваць? – цікавіцца дачка.

– Яны такім чынам нам рот закрываюць, каб болей маўчалі...

* * *

Вясковыя дзядкі сядзяць на лаўцы. Па дарозе раз-пораз праходзяць маладыя дзяўчаты.

– Не тыя пайшлі маладзіцы, – уздыхаюць старыя. – Раней на любую толькі кінеш позірк – і адразу загараешся спакусаю, а цяпер...

* * *

Жонка радасна расказвае мужу:

– Любы, мне ноччу прысніўся сон, што я была на Канарах. Там такая прыгажосць!

– Гэта добра, – адказвае той. – Цяпер і я ў час адпачынку таксама туды паеду.

**Даслаў Віктар ЛОЎГАЧ,**
*Гомельская вобласць,*
*г. п. Акцябрскі.*



Малюнак Андрэя СЛУЦКАГА.





Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.

# Галерэя не старэе




Малюнак Міколы ШЫШЛОВА, 1990 г.




Малюнак Міколы ГІРГЕЛЯ, 2005 г.

**— Дзе карасёў налавіў?**
**— На дарозе.**



Малюнак Аскольда ЧУРКІНА,1983 г.

**— Калі гэтак правяраць,**
**Дык калі мне працаваць?..**



Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА, 1998 г.




Малюнак Анатоля ГАРМАЗЫ, 1990 г.

**— Цяпер Пятроў будзе працаваць у вашым аддзеле.**




Малюнак Міколы ГІРГЕЛЯ, 1983 г.

**— Калі не пацвердзіш, што ён з'еў тваю бабулю, — будзе тое ж самае і з табою, Чырвоная Шапачка.**



Малюнак Пятра КОЗІЧА, 1990 г.




Жыў у нас у вёсцы Волесь. Гаспадарку вёў, як і ўсе. Каня свайго меў. Але больш за ўсё любіў дапамагаць суседзям у ворыве. Тры разы на год аб'язджаў ён навакольныя лецішчы і прапаноўваў дапамогу за ўмераную плату. А ў той час разлічваліся агароднікі часцей за ўсё бутэлькай гарэлкі. Вось і прывозіў араты дадому па некалькі дзясяткаў пляшак у дзень...

Ішлі гады. Зароблены стараннай працай алкаголь Волесь спажываў з такой самаадачай, што ў выніку літаральна спаліў сабе стрававод. Той перастаў успрымаць смакі і ўжо не разумеў: каньяк праз яго пускаюць ці ваду. Бутэлька кампоту з этыкеткай «Віскі» хмяліла Волеся не горш за сапраўдную «Сталічную». Гэтай хваробай добраахвотнага памочніка неўзабаве сталі карыстацца «лепшыя сябры». Яны былі не супраць расплаціцца за ўзаранае поле літрам... звычайнай вады.

Аднойчы Волесь запрасіў прыяцеляў да сябе на дзень нараджэння. Стол багаты накрыў, разнастайныя бутэлькі з этыкеткамі выставіў. Былі там і «Марціні», і «Арарат», і «Беленькая», толькі, праўда, усе пад самаробнымі коркамі.

– Сябры мае, – звярнуўся імяніннік да гасцей. – Сёння мы будзем піць за маё здароўе выдатныя алкагольныя напоі, якімі вы разлічваліся са мной на працягу года. Гэта проста цудадзейныя сродкі! Хоць я і напіваюся імі да самых чорцікаў ды з ног валюся і адразу засынаю, але галава раніцай чыстая і зусім не баліць, быццам быў цвярозы ўжо тыдзень. Дзякуй вам!

Госці елі, пілі ваду з імі ж прыгожа закаркаваных бутэлек, але ў падмане не прызнаваліся. Чакалі, што будзе. Праз некаторы час гаспадар пачаў весяліцца, спяваць песні. Праз дзве гадзіны ўшчэнт «п'яны» Волесь заснуў проста за сталом, а запрошаныя разышліся, так і не паспытаўшы ні кроплі элітнага алкаголю. З тых часоў з аратым усе пачалі разлічвацца выключна грашыма.

**Пётр СЯМІНСКІ,**
*г. Гродна.*







Малюнкі Пятра КОЗІЧА.




**Расціслаў БЕНЗЯРУК**

## Камп'ютарны палонны




У святы і будзень
Зноў клопаты будзяць –
Не тыя, што ў іншых людзей:
Пакінуўшы кніжку,
Бяруся за мышку
І з ёю гуляю ўвесь дзень.

– Эх, лепей не знацца
З кацінаю працай, –
Жартуюць з мяне дружбакі.
– Лепш піва ля бочкі,
Ці ў лесе грыбочкі,
Ці з вудай ідзі да ракі!

Я больш не рыбачу,
Суседзяў не бачу
І чую смяшкі наўздагон:
– Якія грыбочкі
Ці піва ля бочкі?
Камп'ютар забраў жа ў палон!..

*г. Жабінка.*

## Гумарыст




З размовы ў дзіцячай паліклініцы.

– Доктар, паглядзіце маё дзіцятка! – заклапочана просіць урача маладая мама з немаўляткам на руках.

– А на што ў вас скаргі?

– Увесь час сыночак мой смяецца, з першага дня жыцця. У раддоме казалі, што ўсе дзеці пачынаюць з плачу, а мой... Нават калі есці просіць, ад рогату заходзіцца, ды яшчэ і пахіхіквае паміж гэтымі прыступамі смеху.

– Можа, гэта ўсё ж такі плач? – зацікаўлена пытаецца ўрач.

– Ды не, доктар, што вы! Смех гэта, самая станоўчая эмоцыя...

– А што вы рабілі падчас цяжарнасці? Успомніце, калі ласка.

– Глядзела кінакамедыі, чытала выключна гумар... – пачынае ўзгадваць жанчына.

– Вось бачыце, якія таленавітыя творы вам траплялiся! За дзевяць месяцаў дзіцё не адсмяялася, а цяпер дасмейваецца, – зрабіў выснову доктар.

– Дык што, больш гумар не чытаць? – жанчына здзіўлена паглядзела на чалавека ў белым халаце.

– Чытайце, чытайце! – супакоіў той. – Як ваша немаўлятка загаворыць, то і разбяромся: расце аўтар-гумарыст ці толькі выканаўца.

**Даслаў Генадзь КАЗАК,**
*г. Нясвіж.*

## Чаравік і Туфелька

*Байка*

На уздзенскім бульвары
Вясна даўно ўладарыць:
Раскрыты насцеж крамы,
А маладыя мамы
З каляскамі гуляюць.
Калені агаляюць
Дзяўчаты і кабеты –
Ідуць насустрач лету.
Спаткаліся аднойчы
Тут блізка – вочы ў вочы –
Звычайны Чаравік
І Туфелька жаночая
З абцасам пазалочаным.
– Ты дрэнна выглядаеш! –
Калегу дама прывітала. –
Даўно цябе не сустракала.
Абцас пакрыўлены, стаптаны,
Бачок даўно не глянцаваны...
Няёмка побач мне стаяць:
Знаёмых можна напаткаць.
Ад крыўды Чаравік счарнеў,
Штось у адказ сказаць хацеў,
Ды раптам модная сяброўка
Нейк павярнулася нялоўка.
Раз – пазалочаны абцас
Між тратуарных плітак
Захрас,
Нібы прыхоплены магнітам.
Хоць вызваліцца Туфелька хацела,
Круцілася, стаpалася, пыхцела,
Ды вынік працы марным аказаўся:
Абцас урэшце ўзяў і паламаўся.
Абутак той праз інтэрнэт купілі
І грошы немалыя заплацілі.
Фірмовыя прычэплены наклейкі,
Ды якасці – ўсяго на паўкапейкі.

***

А Чаравік са скуры натуральнай,
Хоць, можа, выглядае і брутальна,
Гаспадару дагэтуль верна служыць –
Той па бульвары крочыць і не тужыць.

**Віктар САБАЛЕЎСКІ,**
*г. Узда.*

## Вясёлы слоўнік

АЎТААДКАЗЧЫК – віноўнік ДТЗ.

АНАЛІТЫК – бармен.

БАНДАЖ – жаночая злачынная групоўка.

БЕСТАЛКОВЫ – кемлівы чорт.

БУЛЬДОГ – Муму.

ВАЛЁНКІ – спартыўная барацьба.

ВЫКРУТАСЫ – фігурнае катанне.

ДАЎГАВЕЧНЫ – той, хто не вылазіць з даўгоў.

КАДРЫЛЬ – аддзел кадраў.

МАЛАХІТ – кароткая папулярная песня.

МЕДАВУХА – ліслівасць.

НАСТАЯЦЕЛЬ – упарты чалавек.

НЕЗАБУДКА – злапамятны чалавек.

ПАДКІДЫШ – батут.

ПІЛЮЛЯ – жонка.

ПРЫМОЧКА – завушніца.

ТОПЛЕС – лясная прагулка.

ТЭКСТУРА – гімн.

**Анатоль БАРЫСАГЛЕБСКІ,**
*г. Гомель.*

## Следапыт

Мяне пачатак дня рабочага
На працу ціхенька паклікаў.
Уздоўж асфальту на абочыне –
Сляды знаёмых чаравікаў.

Паколькі спераду глыбейшыя –
Была паспешная паходка.
У абурэнні крок прыспешваю,
А сэрца таххае дрыготка.

Смуга клубіцца між каштанамі...
Я ж устрывожаны нямала:
Мая каханая, жаданая,
Здаецца, слова не стрымала.

Пытанняў узнікае тысяча:
Няўжо з кім іншым дзе гуляе?
Каб па слядах што-небудзь
высачыць,
Час, як на грэх, не дазваляе.

**Эдуард ГРАКОВІЧ,**
*г. Мінск.*




Малюнак Аляксандра ПЯТРОВА.

**Уладзімір ЦАНУНІН**

## Ямы

«Навошта на асфальце столькі ям?» –
Пытаецца ў вадзіцеля маэстра.
Той адказаў: «Я растлумачу вам.
Яны – для пахавальнага аркестра».

**Анатоль ЗЭКАЎ**

## Хатнія грызуны

Жыццё сямейнае ў пячонках
Сядзіць – і я ўжо добра знаю:
Грызе мяне спачатку жонка,
А потым цешча дагрызае.




**РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» прапануе!**

**Душан ДЖУРЫШЫЧ**

## «Вялікі капітан»

На гэты раз у «Калючыку» замежны госць: Душан ДЖУРЫШЫЧ – адзін з найбольш вядомых у сённяшняй Чарнагорыі пісьменнікаў. Паэт, празаік, драматург, ён шмат піша як для дарослых, так і для дзяцей. У кнігу «Вялікі капітан» увайшлі вагоныя вершы і апавяданні-карацелькі ў перакладзе беларускага пісьменніка Генадзя Аўласенкі. Кніга адрасуецца дзецям малодшага школьнага ўзросту. Дарэчы, ёй «Выдавецкі дом «Звязда» адпраўляе ў доўгае плаванне новую кніжную серыю «Сяброўства без межаў». Прапануем маленькім чытачам пазнаёміцца з некаторымі творамі чарнагорскага аўтара і ўсміхнуцца!

P. S. Гэтае і іншыя выданні «Выдавецкага дома «Звязда» вы можаце набыць у любой з кнігарань ААТ «Белкніга», адрасы якіх шукайце на сайце www.belkniga.by, і ў самім Выдавецкім доме па адрасе: 220034, г. Мінск, вул. Захарава, 19.

Даведкі па тэлефонах 284-44-04, 288-12-94.

Пра наяўнасць кніг у крамах Мінска можна даведацца па тэлефонах: 296-70-72, 292-70-72.

Сайт «Выдавецкага дома «Звязда» – www.zviazda.by




**Душан ДЖУРЫШЫЧ**

### Верце – не верце

– Кот да мышэй
заходзіў у госці.
Кот ім –
найлепшы сябра!
– Чакайце!
Вы зблыталі, мабыць,
штосьці?!
– Ды не,
я сказаў вам праўду!

Рысь толькі траўку
любіла есці,
Камар на буйвале
поле ўзараў.
– Вы, мабыць,
усё ж нам зманілі
дзесьці?!
– Ды што вы,
я чыстую праўду сказаў!

Кіты спявалі ў кустах
вечарамі,
а на бульвары,
дзеля красы,
леў
уласнымі кіпцюрамі
маржу старому
раўняў вусы.

Баран з савою
гулялі ў карты,
асёл
вучыўся па буквары...
– Напэўна,
вы гэта казалі жартам?
– Ды што вы!
Я праўду кажу заўжды!

### Што больш моднае?

Жораў жырафу
на баль запрашаў,
доўгую шыю
ў паклоне згінаў.
– У чым жа ісці мне? –
жырафа ў адказ.
– Ды ў той жа сукенцы,
Што зараз на вас!
Стракатае модна ўсё
ў сёлетнім годзе!

А я буду ў шэрым...
Зусім не па модзе!

### Смачнае трэцяе

Пакуль рабяты елі,
ля ног іх мяўкаў кот:
– Ах, смачныя цефцелі!
Ох, з грушамі кампот!
Пірожныя, цукеркі...
Тут шмат адметных страў!
А я б дык мышаняці
на трэцяе жадаў!

**Пераклад на беларускую
Генадзя АЎЛАСЕНКІ.**

**Вольга ЛАБАЖЭВІЧ**

## Загадкі

Гэта знае кожны з нас:
Ён адважны хлопец-ас.
Як сядае ў самалёт —
Пачынаецца палёт.



*(Пілот.)*

* * *

Ведаюць усе на свеце:
Ён прымчыцца, быццам вецер.
Трэба толькі пазваніць,
Калі нешта забаліць.



*(Урач хуткай дапамогі.)*

* * *

Любіць так марскія хвалі,
Як пілот — нябёсаў далі.
І да карабля, вядома,
Ён прывык, нібы да дома.



*(Марак.)*

* * *

Там, дзе свята, весялосць,
Ён заўжды жаданы госць:
Без праблем здымае нас
Ці то ў профіль, ці ў анфас.



*(Фатограф.)*

* * *

Ён руплівы працаўнік,
Ленавацца не прывык.
Двор прыгожы, чысты брук —
Гэта справа яго рук.



*(Дворнік.)*

* * *

Ранкам, вечарам і днём
Пастаянна за рулём.



Давязе, куды папросіш,
І за гэта возьме грошы.



*(Таксіст.)*

* * *

На будоўлі «жураўлі»
Шыі ўгору паднялі.
Ён з машынамі сябруе,
Спрытна шыямі кіруе.



*(Кранаўшчык.)*

* * *

Ля ракі ўвесь дзень сядзіць,
Пільна на ваду глядзіць.
А пасля паміж сяброў
Шчодра дзеліць ён улоў.



*(Рыбак.)*

* * *

Добра ведае ўсе кнігі
І любую знойдзе мігам.
Ці раман табе, ці казку
Прапануе: «Калі ласка!»





*(Бібліятэкар.)*

* * *

На арэне выступае,
Шмат усякіх жартаў знае.
Гледачы з яго смяюцца
Так, што за бакі бяруцца.





*(Клоўн.)*

* * *

Перад музыкамі стаіць,
У ноты ўважліва глядзіць.
Ледзь толькі ён махне рукамі —
Ліецца музыка між намі.



*(Дырыжор.)*

*г. Клецк.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.



Малюнак Паўла ГАРАДЦОВА.

**Інтэрнэт: жартуе ўвесь свет!**





Збылася мара майго дзяцінства: я вырас і мне больш не трэба прачынацца ў школу да 8 гадзін. Цяпер я ўстаю на працу ў 6:20.

* * *

Чаму ў Індыі самыя моцныя шлюбы? Ды таму, што на вяселле дораць ружжо, а жонцы малююць чырвоную кропку на ілбе.



* * *



Іду з крамы, на хаду ем булку і запіваю кефірам. Усе глядзяць, як на дурня. Калі б з півам і цыгарэтай ішоў, ніхто б і ўвагі не звярнуў!

* * *

Кажу, што не п'ю, усё спрабуюць напаіць. Кажу, што на дыеце, усё спрабуюць накарміць. Кажу, што няма грошай... Ці то занадта ціха кажу, ці то дрэнна чуюць!





* * *



– Мілы, калі мы ажэнімся, я буду дзяліць з табой усе трывогі і клопаты.

– Дарагая, але ж у мяне няма ніякіх трывог і клопатаў.

– Дык я ж кажу: калі ажэнімся.

* * *

– Добры дзень! Гэта Цэнтр занятасці?

– Так.

– А можна ў вас заняць?



* * *

– Як вы зразумелі, што ў кватэры знаходзіцца чужы?

– Ну, у нас у сям'і неяк не прынята біць табурэткай ззаду па галаве.

* * *

Жыццё – гэта танец на граблях. Танцуюць усе!





# Чорны гумар




Малюнак Алега ПАПОВА.




Малюнак Пятра КОЗІЧА.



Малюнак Аляксандра ШМІДТА.




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.




Малюнак Руслана БОГУША.

# Дыялогі

## Так ім і трэба!

– Што робяць людзі, калі ім адключылі святло?

– Правільна! Бягуць да акна паглядзець, у якіх яшчэ дамах таксама няма электрычнасці...



## Не тая ружа…

– Што здарылася?

– Ён сышоў, падарыўшы ружу, і сказаў, што вернецца, калі яна звяне.

– Як рамантычна!

– Так... Але ж ружа пластмасавая.



## Нясмачная грэчка

Дачка тэлефануе маці і скардзіцца:

– Мой муж не хоча есці грэчку!.

– А як ты яе варыла?

– Варыла?!




## Сцяна — не перашкода

Камісія прымае новы панэльны дом. Вырашылі праверыць гукаізаляцыю. Два члены камісіі разышліся ў суседнія кватэры.

Адзін праз сцяну крычыць:

– Ты мяне чуеш?

– Не гарлапань! Я цябе бачу!



**Даслаў Канстанцін КАРНЯЛЮК,**
*г. Віцебск.*

«Вожык» – грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
№ 9 (1536), 2016 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*

Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

В. а. галоўнага рэдактара
Ганна Аляксандраўна КІСЛУШЧАНКА.



Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел)*, Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў)*, Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры).*

Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zviazda.minsk.by.

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: vozhyk@zviazda.ru; a-vojik@yandex.ru
Тэлефоны: галоўнага рэдактара – 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага – 284-84-52, бухгалтэрыі – 287-18-81, факс – 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 – індывідуальны, 01380 – індывідуальны льготны,
748442 – ведамасны, 01381 – ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Камп'ютарная вёрстка: Дар'я КАМЕЙША
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ

Падпісана да друку 08.09.2016. Фармат 60x84 $^{1}/_{8}$. Афсетны друк. Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,55. Тыраж 980 экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.






Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА і Андрэя СІДАРЭЙКІ.



Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.

## «Ганарысты парсюк» (паводле байкі Кандрата КРАПІВЫ)




Комікс Ніны БІРЫЛЫ.



Малюнак Алега ГУЦОЛА.



**Сустрэнемся з беларускім гумарам і ў наступным месяцы!**
**Спажывайце беларускае!**

## Нашы індэксы:

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ — 74844**,

**індывідуальны льготны** (для жыхароў сельскай мясцовасці: райцэнтры і населеныя пункты раёнаў) — **01380;**

**ВЕДАМАСНЫ — 748442,**

**ведамасны льготны** (для ўстаноў Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі) — **01381.**



**ПАДПІСКА НА II ПАЎГОДДЗЕ 2016 ГОДА**

**Падпіска на 1 месяц каштуе:**
індэкс 74844, цана 3,40 рублёў,
індэкс 01380, цана 2,70 рублёў,
індэкс 748442, цана 9,70 рублёў,
індэкс 01381, цана 7,70 рублёў.

**Падпісацца можна ў любым аддзяленні сувязі РУП «Белпошта», у кіёсках РУП «Белсаюздрук». А яшчэ — па інтэрнэце (з дапамогай пластыкавых электронных картак, электронных грошай) ці праз аўтаматызаваную сістэму Адзінай разлікова-інфармацыйнай прасторы (АРІП).**

9 770132 595002 16009